


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 4 (49) КРАСАВІК 2006 г.



**У нумары:**



*Тэму гэтага нумару падказала размова з Ірынай Крывель, старшынёй грамадскага аб'яднання літоўцаў Браслаўшчыны – "Рытас". Яна паведаміла, што ў красавіку парафіяне Пеліканскага касцёла збіраюцца адзначаць 100 гадовы юбілей асвячэння храма. Актыўна ўдзельнічаць у гэтым збіраюцца і сябры таварыства "Рытас", бо Пеліканскі касцёл з'яўляўся адным з цэнтраў літоўскай культурна-асветніцкай працы. Паводле інфармацыі таварыства, у красавіку 1906 г. Касцёл асвяціў біскуп жамойдскі Кацпер Цыртаўт.*






Гістарычная пячатка

Матэрыялы красавіцкага нумара "Павета" звязаны з гісторыяй Пеліканскага касцёла, а таксама мястэчка і маёнтка.

## З касцельнай хронікі

Заснаваны ў 1714 годзе па ініцыятыве езуітаў, якім належаў Пеліканскі маёнтак. Насіў назву Сашэсця Святога Духа, з'яўляўся філіяльным храмам Браслаўскай парафіі.

У другой палове XVIII ст. была ўтворана самастойная Пеліканская парафія.

У 1783 годзе складзена апісанне касцёла, плябаніі і парафіі.

Паводле некаторых звестак, у 1816 годзе ўзводзіцца новы будынак касцёла, хаця ў пазнейшых дакументах датай узвядзення храма пазначаецца 1714 год.

У сярэдзіне XIX ст. будынак знаходзіўся ў спарахненым стане. Царскія ўлады не давалі дазволу на ўзвядзенне новага касцёла. Былі меркаванні збудаваць у Пеліканах царкву.

У 1868 годзе Пеліканская парафія ўключала 61 паселішча (у тым ліку: 1 мястэчка, 21 вёску, 3 аколіцы, 6 маёнткаў, 4 фальваркі,23 засценкі, 3 хутары). Налічвалася 250 двароў, 2625 вернікаў.

У 1879 годзе парафія налічвала 3389 вернікаў. Да парафіі, акрамя касцёла Сашэсця Святога Духа, адносілася мураваная капліца Распяцця Езуса Хрыста ў вёсцы Асанішкі, пабудаваная ў 1835 г. за кошт памешчыка Розена.

У пачатку XX ст. (верагодней за ўсё, пасля 1905 г.) узводзіцца новы будынак з цэглы, які атрымаў назву Святога Якуба.

Красавік 1908 г. Касцёл асвечаны біскупам жамойдскім Кацперам Цыртаўтам.

У 1939-1941 гг. пробашчам касцёла быў Мечыслаў Багаткевіч, які загінуў ад рук гітлераўцаў у 1942 г. Прылічаны да ліку бласлаўлёных.

У канцы 40-х гг. XX ст. Пеліканскі касцёл зачынены савецкімі ўладамі. Будынак выкарыстоўваўся для гаспадарчых патрэб мясцовага калгаса.

У пачатку 90-х гадоў XX ст. храм вернуты вернікам.

PELIKANY
PAROECIA
ECCLESIA
S. IACOBI APOSTOLI

**Сучасная пячатка Пеліканскай парафіі**




**Фрагмент Радзівілаўскай карты Вялікага княства Літоўскага з пазначэннем Пеліканаў.1613 г. Амстэрдам**

# Пеліканскі касцёл і плябанія ў 1783 годзе.

(паводле апісання, зробленнага падчас генеральнай візітацыі Браслаўскага дэканата)

Касцёл, што называецца Пеліканскім, быў узведзены езуітамі, а пазней па ініцыятыве вяльможнага Квінты, пісара земскага браслаўскага, у іншае месца перанесены і на трацiну павялічаны. Цяпер асвечаны пад імем Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны. Накрыты гонтам... Мае тры алтары. Вялікі алтар з абразам Маці Найсвяцейшай, якая трымае на руках маленькага Езуса. Абраз маляваны на палатне, у драўлянай раме, стары... Праваруч знаходзіцца абраз на палатне ў раме з выявай Святога Францішка, леваруч – абраз у раме чырвонага колеру з выявай Святога Ігнацыя. Пад ім – здрахлелая, старая фігурка ўкрыжавання Пана Езуса; другая фігурка знаходзіцца ў сярэдзіне касцёла, трэцяя выносіцца падчас працэсій. Вокнаў у касцёле 4. У закрысціі два невялікіх шкляных акенцы... Лямпа ў храме не заўсёды паліцца, а толькі падчас набажэнства, бо фундушу на гэта няма.

Шпіталь.

Асобна збудаванага будынку няма. Жабракоў, якія прыслугоўваюць у касцёле 3, жывуць яны з міласці парафіян.

Плябан.

Ксёндз Казімір Тамашэвіч нарадзіўся ў Браслаўскім павеце, адукацыю атрымаў у Віленскай дыяцэзіяльнай семінарыі, пасвечаны ў сан праз ксяндза Зыгмунта Ластоўскага, пробашча іказненскага. Мае 34 гады. На пасадзе з 1780 года.

Брацтва.

Ніякіх ні брацтва, ні манахаў, ні сродкаў, ні дакументаў, ні бібліятэкі касцёл не мае.

Плябанія.

Драўляны будынак узведзены ў 1781 годзе. Ёсць пакой і камора для размяшчэння ксяндза. Насупраць пякарня і каморы для размяшчэння людзей. Тут жа маленькі свіран для складзіравання, стаенка для коней і хляўчук. Плябанія ўзведзена за кошт Камісіі Адукацыйнай. Не мае ні фальварка, ні прыгонных, ні зямлі, акрамя ўчастка пад агарод, які выдзелены дваром.

Парафія.

Пеліканская парафія мяжуе з опсаўскай, відзаўскай, дрысвяцкай і даўгелішскай парафіямі. Мае даўжыню 1,5 мілі (міля ў Рэчы Паспалітай – 7,4 км), шырыню – 0,5 мілі. Самая вялікая адлегласць для парафіян да касцёла складае 1,5 мілі...

Апісанне парафіі.

Паселішчы яснавяльможнага Квінты, пісара земскага браслаўскага, старосты мітаўскага: Двор Пеліканскі, мястэчка Мілюнцы, пры касцёле, вёскі – Рымашаны, Вайнюнцы, Місанцы, Дварышча, Шаўлоўшчына, Падрукшы, Мацэйбішкі, Юцішкі, Абалікшты; засценкі – пры Белай карчме, Ігнацішкі, Пасаланішкі. Паселішчы яснавяльможнага пана Жынкі, стражніка павета Браслаўскага: Двор Падрукшы, вёскі – Мурмішкі, Ясенішкі, Алкснішкі; засценкі – Аляксея, Папарцішкі, два засценкі без назвы, Ёдзішкі, Пры старым млыне, Жвіры, Пры новым млыне, Жэрмяніста, Зажэрмяніста. Паселішчы яснавяльможнай пані Яроцкай, чашніковай браслаўскай: Двор Сталпоўшчына, вёскі – Мушыклі, Камароўшчына, Матэйкяны. Паселішчы яснавяльможнага пана Вырвіча, вайсковага інфлянцкага: Двор Вазбуны, вёска Камароўшчына. Паселішчы ягамосцяў паноў Вырвічаў: аколіца Матэйкяны, тых жа Вырвічаў у закладзе пана Астаневіча: засценак Квідзішкі. Паселішчы яснавяльможнага князя Радзівіла, ваяводы віленскага: вёскі – Абаляны, Трапужы, Галавачы, Гаўранцы, Ставарэлі, Мацэляны, Рудзі, Мясаеды; засценкі – Кавалеўшчына, Талочкі. Паселішчы яснавяльможнага ксяндза Масальскага, біскупа віленскага: вёскі – Карэнеўшчына, Латочкі, Вацкелюны, Сетранцы. Паселішчы яснавяльможнай пані Грыневічавай, старосціхі ўпіцкай: Двор Гірэйшы, вёска Гірэйшы, засценкі – Дзегуціні, Каркліні, Шліпіні. Паселішчы яснавяльможнай пані Хмялеўскай, мастаўнічай браслаўскай: вёска Вазгелянцы, засценак Крыванішкі.



**Асанішская капліца. Цяпер яе прывязваюць да в.Старадварышча. Вельмі прыгожы, зграбны будынак. Фотаздымак зроблены да аднаўлення**

# Пеліканская парафіяльная школа

Адкрыццё парафіяльнай школы ў Пеліканах звязана з дзейнасцю Адукацыйнай Камісіі – установы, якая кіравала народнай асветай у Рэчы Паспалітай. Камісія заснавана ў 1773 годзе. У гэтым жа годзе быў распушчаны ордэн езуітаў, а яго маёмасць перайшла да Адукацыйнай камісіі. Уласнасцю Камісіі стаў і Пеліканскі маёнтак.

Школа ў Пеліканах упершыню згадваецца ў 1777 годзе. У ёй навучалася 9 дзяцей з сялян і мяшчан. У 1781 годзе было 11 вучняў (2 са шляхты, 2 з мяшчан, 7 з сялян), у 1782 годзе – 15 вучняў, з іх 13 з сялян. У перыяд 1785-1798 гг. налічвалася ўсяго па 5 вучняў. У далейшым школа прыйшла ў заняпад.

* * *

## Школа ў 1783 годзе.

Будынак, нягледзячы на загад, не ўзведзены, бо не знайшлося дрэва. Аднак школа размяшчаецца ў адным з вольных местачковых дамоў, які зручны для заняткаў. Дырэктар адсутнічае, заняткі праводзіць арганіст. Парафіяне, якія пасылаюць у школу сваіх дзяцей, аплачваюць працу настаўніка. Усяго дзяцей 17 чалавек, паходзяць яны з мяшчанскага і сялянскага асяроддзя. Заняткі пачынаюцца раніцай і завяршаюцца ўвечары. Выкладаюцца чытанне і пісанне. Вучняў не прыцягваюць ні на якую працу.

## З апісання Пеліканскай парафіі 1784 года.

*Дарогі. Ад Пелікан да Браслава дарога напачатку вельмі дрэнная: гразкая, камяністая, багністая, і звілістая. Участак ад Опсы да Браслава добры, зручны, абкапаны з двух бакоў раўчукамі, падрамантаваны, месцамі спрамлены. Ад Пелікан да Відзаў дарога вельмі добрая, бо яна з'яўляецца публічным трактам з адабраных тэрыторый да Вільні.*

*Млыны. Пана Квінты, вадзяны, пры двары. Другі каля Двара на маленькім стаўку. Працуе вясной.*

*Млын Жынкі на рацэ Дрысвяціцы.*

Дзяржаўны гістарычны архіў. Літва. ФДА, спр.19252.

# ПЕЛІКАНСКІЯ СВЯТАРЫ

*По розных гістарычных крыніцах вядомы прозвішчы 15 пробашчаў і вікарыяў, якія працавалі ў Пеліканскім касцёле ад канца XVIII ст. да сучаснага перыяду. Адзін з іх – Станіслаў Багаткевіч, прылічаны касцёлам да ліку блаславёных. У XIX - пачатку XX стст. сярод пеліканскіх ксяндзоў было шмат літоўцаў -- Ізыдар Будрыс, Майсей Юргайціс, Адам Жэйміс-Жэймавічус, І.Жэйміс-Жэймавічус, Ёнас Скардзінскас. Яны актыўна займаліся культурна-асветніцкай працай сярод літоўскага насельніцтва парафіі. Вельмі актыўна працаваў у гэтым напрамку А.Жэйміс-Жэймавічус. Яго дзейнасць прыпадае на вельмі спрыяльны перыяд дэмакратызацыі грамадства пасля рэвалюцыі 1905 года. У Пеліканах працавалі літоўская школа, некалькі таварыстваў.*

## Блаславёны Мечыслаў Багаткевіч



Мечыслаў Багаткевіч

Нарадзіўся 1 студзеня 1904 года ў маёнтку Крыкалы каля Дунілавіч Дзісенскага павета, дзе бацька працаваў упраўляючым у графа Любянецкага. Дзед быў паўстанцам 1863 года. Напачатку вучыўся ў школе в.Сітцы, пазней у Беларускай гімназіі ў Будславе, польскай гімназіі ў Докшыцах. Спецыяльную адукацыю атрымліваў у духоўных семінарыях у Навагрудку і Мінску. 23 ліпеня 1933 года пасвечаны ў святарскі сан. Да 1939 года працаваў у Драгічыне над Бугам, Лунінцы на Палессі, вучыўся ў Варшаўскім універсітэце. У верасні 1939 года паехаў да брата Станіслава, пробашча ў Пушках, непадалёку ад Відзаў. Неўзабаве стаў працаваць у Пеліканах, дзе з пачаткам другой сусветнай вайны не стала пробашча. Падчас працы ў Пеліканах запомніўся як надзвычай набожны святар, чуллівы да патрэб людзей. Актыўна дапамагаў бедным, прамаўляў выдатныя казанні. У канцы 1941 года пераехаў у Дрысу (сучасная назва – Верхнядзвінск), дзе актыўнай дзейнасцю прыцягнуў увагу гестапа. У пачатку студзеня 1942 года ксяндза папярэдзілі аб маючым адбыцца арышце. М.Багаткевіч вырашыў не хавацца ад акупантаў. 16 студзеня 1942 года арыштаваны. Утрымліваўся ў Браславе. 1 лютага перавезены ў Беразвецкую турму. 4 сакавіка 1942 года расстраляны гітлераўцамі ў ляску Барок.

Паводле: T.Krahel. Męczennicy y Berezwecza. Białystok. 1998 r.

А Н К Е Т А

Анкета Браслаўскай раённай акупацыйнай управы, запоўненая Ст.Багаткевічам. 1942 г. *Віцебскі дзяржаўны архіў*

## Станіслаў Багаткевіч

Брат Мечыслава - Станіслаў, вылучаўся набожнасцю, польскім патрыятызмам. У час вайны выконваў функцыю святара 24 брыгады Арміі Краёвай "Дрысвяты".

Нарадзіўся 6 лютага 1906 года ў маёнтку Крыкалы. Адукацыю атрымаў у Віленскай духоўнай семінарыі. У маі 1935 г. пасвечаны на святарскі сан. 3 верасня 1936 г. стаў працаваць у Браслаўскім павеце: Відзах, Пушках. З 26 верасня 1941 года – у Пеліканскай парафіі. Працаваў да 8 ліпеня 1948 г. Быў папярэджаны мясцовымі людзьмі аб арышце савецкімі ўладамі. Два гады святара хавалі вернікі парафіі. У студзені 1950 г. арыштаваны НКУС. Асуджаны на смерць, пазней прысуд змянілі на 25 гадоў лагераў і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Пакаранне адбываў на шахтах Казахстана, дзе прымаў удзел у руху супраціўлення. У ліпені 1956 г. рэабілітаваны, пасля чаго вярнуўся ў Пеліканы. Савецкія ўлады не далі яму працаваць, зноў арыштавалі і прапанавалі пакінуць СССР. С.Багаткевіч выехаў у Польшчу, дзе выконваў абавязкі святара ў шэрагу мясцовасцей. Памёр 27 лютага 2004 г.

Паводле: Biuletyn Brasławsko-Olsztyński. Grudzień, 2004 r.

# Спіс святароў, якія працавалі ў Пеліканах

**Казімір Тамашэвіч**, пробашч. Нарадзіўся ў Браслаўскім павеце ў 1749 г. У Пеліканах з 1780 г.
**Андрэй Паўлікоўскі**, пробашч. Нарадзіўся ў 1787 г. Згадваецца ў 1831 г.
**Трамбовіч**, пробашч. Згадваецца ў 60-я гады XIX ст.
**Карл Яўгел**, пробашч. Згадваецца ў 1879 г.
**Людвік Рынкевіч**, вікарый. Згадваецца ў 1893 г.
**Юзаф Ламан**, пробашч. Згадваецца ў 1896 г.
**Ізыдар Будрыс**, пробашч. Гады жыцця: 1848-1905 гг. Згадваецца ў 1898 г.
**Майсей Юргайціс**, пробашч. Згадваецца ў 1890 і 1906 гг.
**Адам Жэймовіч (Жэйміс-Жэймавічус)**. Згадваецца ў 1906, 1909 гг.
**І.Жэйміс-Жэймавічус**. Згадваецца ў пачатку XX ст.
**Казімір Маліноўскі**, пробашч. Згадваецца ў 1922-1924 гг.
**Ёнас Скардзінскас**, пробашч. Згадваецца ў 30-я гады XX ст.
**Мечыслаў Багаткевіч**, пробашч. Гады жыцця: 1904-1942 гг. У Пеліканах з восені 1939 г. да восені 1941 г. Прылічаны да ліку блаславлёных.
**Станіслаў Багаткевіч**, пробашч. Гады жыцця: 1906-2004 гг. У Пеліканах з верасня 1941 г. да 1950 г., у 1956 г.
**Кшыштаф Мінкіна**, пробашч з Опсы. Адначасова працаваў у Пеліканах у пачатку 90-х гадоў.
**Альфрэд Пяхота**, пробашч. У Пеліканах з пачатку 90-х гадоў да 2005 г.
**Здзіслаў Петрашэўскі**, пробашч з лета 2005 г. да вясны 2006 г.
**Міхаіл Татаранка**, пробашч. У Пеліканах з вясны 2006 г.







**Надмагільны помнік ксяндзу Адаму-Данату Жэймовічу на цвінтары. Надпіс зроблены на літоўскай і польскай мовах**

**Кастусь Шыдлоўскі**

# КСЯНДЗЫ І ПРАБЛЕМА П'ЯНСТВА

У XIX ст. праблема п'янства абвастрылася, бо царскія ўлады стварылі спрыяльныя ўмовы для шырокага гандлю спіртнымі напоямі, які даваў значны прыбытак у скарб. Многія каталіцкія святары сталі рашуча выступаць супраць п'янства і іх дзеянні мелі поспех. У такіх выпадках паступленні ў скарб змяншаліся, таму чыноўніцтва пачынала рэагаваць на "шкодную" дзейнасць святароў. У 1864 годзе ў самых высокіх сталічных інстанцыях разглядалася сітуацыя ў Новааляксандраўскім павеце. У Міністэрства ўнутраных спраў паступіў рапарт, што ў Салоцкай, Ракішскай і Дусяцкай валасцях зменшыўся продаж гарэлкі. Вінаватыя ў гэтым ксяндзы, а паколькі старты нясе дзяржаўны скарб, то дзейнасць святароў можна разглядаць як антыдзяржаўную.

У красавіку 1864 года віленскі генерал-губернатар Мураўёў у адмысловай паперы растлумачыў, што антыалкагольная праца ксяндзоў мае на мэце павялічыць іх уплыў на народ і надалей забараніў арганізоўваць таварыствы цвярозасці. Парушальнікам штраф 100 рублёў, пры паўторным парушэнні – 200 рублёў.

Расследаванне, праведзенае ў Новааляксандраўскім павеце паказала, што сяляне грамадой вырашылі штрафаваць выпівох. Улады загадалі вярнуць штрафы, а ініцыятараў такога віду пакаранняў паўшчуваць, а міністэрства скарбаў нават прасіла пакараць іх больш рашуча. Вінаватымі аказаліся не выпівохі, а тыя, хто змагаўся са злом. На гэтым фоне праз нейкі час да ўлад паступіў данос на ксяндзоў са Слабодкі Шыдлоўскага і Пелікан Трамбовіча. Святароў вінавацілі ў тым, што яны самі не п'юць і іншым не даюць.

Асабліва рашуча выступаў супраць п'янства Трамбовіч. Аўтар даносу пісаў, што падчас набажэнства ў Пеліканскім касцёле ён пагражаў выпівохам рознымі карамі, аднаму проста ў храме адвесіў аплявуху, іншага імкнуўся адлупцаваць кіем. Дзяцей выпівох называў шчанюкамі і казаў несці іх не ў касцёл, а ў балота. Паліцэйскі прыстаў, якому даручылі весці дазнанне, напісаў начальству, што святары з'яўляюцца прыстойнымі асобамі, а іх дзеянні тлумачацца тым, што гарэлка даводзіць сялян да жабрацтва.

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы каталіцкія святары і далей выступалі супраць п'янства. У Пеліканах існавала аддзяленне каталіцкага таварыства "Цвярозасць". Ёсць звесткі аб яго кіраўніцтве: у 1909 годзе старшынёй з'яўляўся ксёндз Адам Жэймовіч, віцэ-старшынёй Марцэліна Паклеўская-Козел, казначэем Казімір Піпір, памочнікам Антон Шыпіла, , сакратаром Сігізмунд Савіч, памочнікам Сямён Сашкоўскі, сябрамі рэвізійнай камісіі Гэлена Пелікан, Станіслаў Розен, Нікадым Ракель, Сымон Абалевіч,Уршуля Шыпіла.

Кастусь Шыдлоўскі

# МЯСТЭЧКА І МАЁНТАК. ЭПІЗОДЫ ГІСТОРЫІ

Назва Пеліканы зафіксавана на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г., матэрыялы для якой збіраліся ў другой палове XVI ст. Гісторык О.Гедэман прыводзіць легенду паходжання назвы. Некалі даўно, падчас вайны ў гэтай мясцовасці прыпыніўся рыцар, які вазіў з сабой незвычайную птушку. Уначы раптоўна напаў вораг і рыцар вымушаны быў ратаваць жыццё. Птушка засталася, а гэта быў пелікан, і прычынілася да паўстання арыгінальнай назвы. Верагодней за ўсё, этымалогію слова трэба выводзіць з літоўскай мовы, па-літоўску назва гучыць як Пелеку. Блізка да яе словы pelke – балота, pelekas – сівы.

Пеліканы – гэта маёнтак, які даволі часта згадваецца ў гістарычных матэрыялах. У Літоўскай Метрыцы ў XVI ст. згадваецца "село Полеканы" як уладанне князя Свірскага. Там жа ёсць прывілей Скуміну на Пеліканы, датуемы 1583 годам. У XVII-XVIII стст. належаў да езуітаў. У Браслаўскім павеце езуіты трымалі кляштар і школу ў Відзах, маёнткі Горы Відзскай воласці, Сангалішкі Смолвенскай воласці і Пеліканы. Усяго 22 вёскі, 121 гаспадарку.




**Пеліканы і наваколле. Фрагмент расійскай карты. Пач. XX ст.**

Пасля таго, як быў збудаваны касцёл, паселішча побач сталі называць мястэчкам. Назва мястэчка – Мілюнцы. Мястэчка не развівалася зусім, і таму з XIX ст. яго часцей вызначалі як вёску.

Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 годзе яго маёмасць перадаецца ў фонд Адукацыйнай Камісіі, а ад яе неўзабаве ў прыватныя рукі. У канцы XVIII ст. маёнтак у руках Антона Квінты, пісара земскага браслаўскага, старосты мітаўскага. Налічваў 77 дымаў ці гаспадарак і адносіўся да ліку буйнейшых у Браслаўскім павеце. Квінты валодалі маёнткам да 1815 г., калі яго набыў Вінцэнт Барткевіч. О.Гедэман пісаў пра Вінцэнта як паўстанца 1831 г., пра канфіскацыю маёнтка. Але пазней гісторык знайшоў ёмістую справу па маёнтку, якая развенчвае В.Барткевіча, як героя. За даўгі ў 1832 г. Пеліканы пераходзяць да Бжазоўскіх.

Самая вядомая постаць з уладальнікаў маёнтка – Венцыслаў (Вацлаў) Пелікан (1790-1873 гг.), выдатны медыцынскі дзеяч. В.Пелікан выконваў функцыі рэктара Віленскага ўніверсітэта (1824-1831 гг.), дырэктара медыцынскага дэпартамента ваеннага міністэрства Расіі (з 1846 г.), прэзідэнта Санкт-Пецярбургскай медыцынска-хірургічнай акадэміі (з 1851 г.), з'яўляўся аўтарам перадавых рэформ у галіне медыцыны, прац па тэорыі і практыцы медыцыны.



**Доктар В.Пелікан**

У 1866 г. В.Пелікан набыў маёнтак Пеліканы, які лічыў нейкім чынам звязаным з гісторыяй свайго роду. У маёнтку ён сканаў 9 чэрвеня 1873 г. Верагодней за ўсё, пахаваны ў капліцы, якая знаходзіцца побач з дарогай, што вядзе з Мілюнцаў да Вайнюн. Пасля вайны капліца была разбурана, выкарыстоўвалася для гаспадарчых патрэб. Цяпер адноўлена, але пахавальная дошка В.Пелікана страчана (падрабязней пра В.Пелікана: А.Майсяёнак, П.Шантыр. В.Пелікан: Ад Слоніма да Браслаўшчыны. У зборніку "Браслаўскія чытанні. Матэрыялы II-й навукова-краязнаўчай канферэнцыі." Браслаў. 1991 г. С.45-53).

Пеліканы валодалі маёнткам да 1939 года. У гады першай сусветнай вайны ў панскім доме размяшчаліся штабы розных падраздзяленняў расійскіх войск. Будынкі перажылі ваеннае ліхалецце першай сусветнай вайны і былі спалены партызанамі ў гады другой сусветнай вайны. Старажылы згадваюць, што ў час акупацыі ў маёнтак вярнуліся Лілія Пелікан і яе сястра Пелікан-Тарлецкая. Дзейнічала жывёлагадоўчая ферма, якую даглядалі спецыялісты з Галандыі. На ферме працавала шмат мясцовай моладзі, у такім выпадку маладых людзей не забіралі ў Нямеччыну.

У музеі ёсць інфармацыя пра сына В.Пелікана, якога таксама звалі Вацлаў Пелікан. Нарадзіўся ён 18 чэрвеня 1874 г. у маёнтку Пеліканы. У 1902 годзе закончыў Медыцынскую Акадэмію ў Санкт-Пецярбургу. Пасля першай сусветнай вайны вырашыў працаваць на Браслаўшчыне. Не вельмі прыязна быў прыняты польскімі ўладамі. Дапамог В.Пелікану атрымаць працу Станіслаў Нарбут. Вацлаў Пелікан быў нябедным чалавекам. Валодаў маёнткам Разалінава непадалёку ад Пелікан (магчыма, спадчына па бацьку), стала жыў у Відзах. Пра яго згадвае ў сваіх відзскіх рэпартажах знакаміты Мельхіёр Ваньковіч, журналіст і пісьменнік. У музеі ёсць пасведчанне прадстаўніцтва аўтамабільных фірм у Вільні, што В.Пелікан, які пражывае ў Відзах па вул.Жаўнерская, 11, у 1937 годзе набыў легкавік "Опель Алімпія". Каштавала машына 5880 злотых – значная па тых часах сума грошай.

Цяпер пра колішні маёнтак Пеліканы нагадваюць рэшткі гаспадарчых пабудоў, прысады ды капліца. Побач з капліцай у 1944 г. пахавалі савецкіх воінаў, якія загінулі ў наваколлі. Потым пахаванне перанеслі, але зрабілі гэта неахайна. Частка воінаў засталася на месцы і таму над магілай паставілі крыж.

# Пеліканскі маёнтак. Справа 1803 года

У мінулыя часы ўзаемныя прэтэнзіі ўладальнікаў суседніх маёнткаў былі справамі звычайнымі. Вялікую колькасць іх разглядалі суды розных інстанцый. Але з канца XVIII ст. суседам Пеліканскага маёнтка стаў граф Мікалай Мануцці, італьянскі авантурыст, за злосным нясцерпным характарам, неўтаймавальным норавам, якога празвалі ў павеце "д'яблам". У архівах захавалася шмат спраў супраць М.Мануцці. У гістарычным архіве Літвы ёсць справа па скарзе ўладальніцы Пелікан Квінтавай на дзеянні М.Мануцці (Ф.378-1803, спр.384). Узброеныя сяляне графа з маёнтка Богіна рабілі напады на пеліканскія землі, адбіралі ў сялян маёмасць. Браслаўскі земскі суд не даў рады графу, па загаду якога дзейнічалі рабаўнікі. Судовыя ўлады адзначалі, што скаргі на М.Мануцці настолькі частыя, што калі займацца толькі імі, то на іншыя не хопіць часу. Па распараджэнню суда земская паліцыя вызначана разабрацца ў гісторыі з нападам на Пеліканскі маёнтак, але прадстаўнікоў улады сустрэў узброены натоўп. Падданыя графа зрабілі два папераджальныя стрэлы і правяраючыя "...опасаясь, дабы не могло последовать худого происшествия..." вярнуліся ні з чым.

Квінтава скардзілася, што падчас аднаго з нападаў людзі Мануцці забралі 91 адзінку хатняй жывёлы, што граф далучыў да сваіх уладанняў азёры Доўгае і Загорнае, некаторыя сенажаці, палі, кавалкі лесу і іншыя ўгоддзі. Са скаргай уладальніца Пелікан дайшла да сталіцы, турбавала міністэрствы юстыцыі, унутраных спраў. Нарэшце імператар Аляксандр I загадаў разабрацца ў сітуацыі. Не спаў у шапку і граф, дасылаючы ў розныя інстанцыі тлумачэнні. Тым часам найбольш цярпелі абрабаваныя сяляне. У справу падшыта і іх скарга, што справа цягнецца доўга, а забраную жывёлу ім не вярнулі.

## Са скаргі пеліканскіх сялян у Браслаўскі земскі суд аб новых рабунках Мануцці

*...1. Деревни Милюнцев Юрию Труханову отнято на дороге кляча, стоящая двадцать рублей.*

*2. Деревни Подрукши Габриелю Гетовту, Казимиру Труханову и Юрию Усовичу отнято на дороге три лошади, стоящие 76 рублей.*

*3. Деревни Игнатишек Мартину Мисюну недалеко дома его отнято 5 лошадей, стоящих 95 рублей.*

*4. Деревни Милюнцев Михаилу Шлабулю из огорода его 1 лошадь, стоящую 18 рублей.*

*5. Деревни Игнатишек Мартину Шлабулю недалеко дома его:*
*Коров старых 7 штук, каждая по 15 руб., всего 105 руб.;*
*Коров двухлетних две, каждая по 4 руб, всего 8 руб.;*
*Бык один, 12 руб.;*
*Овец старых десять, каждая по 2 руб., всего 20 руб.;*
*Овец молодых семь, по 50 коп., всего 3 руб. 50 коп.;*
*Коз две, каждая по 1 руб.,всего 2 руб.*

*6. В Белой Корчме Казимиру Оболиките близко его дома корову, стоящую 15 руб. и свинью 4 руб.*

*7. От туда же еврею:*
*кляч 1 – 24 руб.;*
*корову 1 – 15 руб.;*
*коз 2 – 2 руб.*

*8. Деревни Милюнцев Михаилу Шлабулю из его стада клячу одну 17 руб.*

*9. С той же деревни Иосифу Ракелю из его огорода одну лошадь 24 руб.*

*Итого насильно забранного: лошадей 13, коров старых 9, коров молодых двухлетних 2, бык один, овец старых и молодых 17, коз 4 и свинью одну.*

## ПАХАВАНЫ НА ЦВІНТАРЫ ПЕЛІКАНСКАГА КАСЦЁЛА

У гады першай сусветнай вайны лінія фронту знаходзілася побач з Пеліканамі. Пеліканы заставаліся ў тыле расійскіх войск. У матэрыялах Расійскага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве ўдалося адшукаць звесткі, што ў агароджы касцёла пахаваны паручнік балгарскай арміі Раман Дзмітрыевіч Сокераў (Стокераў), які быў прыкамандзіраваны да 14-га гусарскага Мітаўскага палка, што ўвосень 1915 г. дзейнічаў у складзе коннай групоўкі генерала Араноўскага. У данясенні ад 26 кастрычніка 1915 года адзначалася, што Сокераў загінуў у палявым каравуле.

Верагодней за ўсё, гэты балгарскі афіцэр прыбыў на фронт добраахвотнікам. Магіла Р.Сокерава ў дакументах пазначана рукапіснай схемкай.

Кастусь Шыдлоўскі

# Сялянскія хваляванні ў 1845, 1862 гадах

*Як паказваюць гістарычныя матэрыялы, у пеліканскіх сялян было шмат прэтэнзій да ўладальнікаў маёнтка. Адзін з канфліктаў з тагачаснымі ўладальнікамі маёнтка Бжазоўскімі, які меў месца ў 1845 годзе, зафіксаваны ў справе Каўнаскага архіва. Сяляне лічылі, што павіннасці іх завышаны, але дамовіцца з гаспадарамі маёнтка не здолелі. Група жыхароў з Мілюнцаў, Вайнюнаў некалькі разоў збіралася, каб абмеркаваць сітуацыю, і вырашылі паслаць свайго прадстаўніка да імператара. Дэлегатам абралі Міхаіла Бартошку з Мілюнцаў. Бартошка выехаў у Дынабург (сучасны Даўгаўпілс), каб адтуль дабрацца да сталіцы. Бжазоўскія забілі трывогу. Яны паведамілі ўладам, што сярод сялян рыхтуецца змова. Становы 3-га стану сустрэўся з сялянамі і вырашыў затрымаць найбольш актыўных: Габрыэля Вансовіча і Казюка Стэльмачонка. Аднак яны не* падпарадкаваліся паліцэйскаму, а змяшаліся з натоўпам, які накіраваўся ад месца сустрэчы. Падазрэнне паліцэйскіх улад пала і на Андрэя Гетаўта. Селяніна арыштавалі і адправілі ў Браслаў. Каля 30 чалавек на конях дагналі канвой і адбілі свайго таварыша. Пры далейшым расследаванні аказалася, што сходы сялян адбываліся на сялібе ў Андрэя Гетаўта ў в.Дварышча, што актыўна ў іх удзельнічалі Міхаіл Бартошка, Андрэй Крук з Мілюнцаў, Франц Абалікшта з в.Юцішкі, Ігнат Вансовіч з в.Вайнюны. Нейкі ўплыў на сялян меў Казімір Пяткевіч, шляхціц з в.Арцёмавічы. Менавіта ён падбухторваў да напісання скаргі і паездкі да імператара. Грамада сабрала 40 рублёў срэбрам, а К.Пяткевіч абяцаў пасадзейнічаць М.Бартошку ў падарожжы да Санкт-Пецярбурга. Міхаіла Бартошку паліцэйскія затрымалі ў Дынабургу.

*Бжазоўскія не пагадзіліся з прэтэнзіямі сваіх прыгонных, наадварот, тлумачылі, што патрабаванні да іх у Пеліканскім маёнтку меншыя, чым у суседзяў.*

*Прынамсі, удзельнікі хваляванняў так не лічылі. У 1862 г. яны зноў паспрабавалі перагледзець павіннасці. Напрыклад, заявілі, што на паншчыну згодны хадзіць не больш, чым 4 дні на тыдзень, нават прыгразілі, што ў адваротным выпадку зусім не пойдуць на панскія ўгоддзі. Выказваліся і іншыя прэтэнзіі да Бжазоўскіх, якіх мясцовы люд не лічыў за сапраўдных гаспадароў маёнтка. Ковенскі губернатар загадаў накіраваць у Пеліканы уланаў Курляндскага яго вялікасці палка. Напачатку прыбыла каманда колькасцю 33 чалавекі. Прадстаўнікі ўлады паспрабавалі дамовіцца з удзельнікамі выступлення. Калі гэта не ўдалося, было арыштавана 6 чалавек. Аднак натоўп — мужчыны, жанчыны, дзеці, старыя — усяго каля 150 чалавек, напаў на месца ўтрымання вязняў. Вызваліць арыштаваных не ўдалося, але і натоўп не разыходзіўся. Была пагроза, што да месца супрацьстаяння падцягнуцца жыхары з іншых паселішчаў маёнтка (усяго іх налічвалася каля 700 чалавек), таму ўлады выслалі ў Пеліканы 125 вайскоўцаў. 11 жніўня на панскім двары адбыліся перамовы. Сяляне пераконвалі, што ўсе запісаныя павіннасці немагчыма выконваць, бо разбураюцца іх гаспадаркі, што зямля іх надзелаў вельмі бедная. Павіннасці аказаліся сапраўды завышанымі. Па ўзгадненню з уладальнікамі маёнтка ўлады прапанавалі саступкі, праўда, нязначныя. Сяляне не згадзіліся саступіць. Тады палкоўнік Скварцоў, камандуючы вайскоўцамі, вырашыў дзейнічаць сілай. Двух найбольш актыўных чалавек пакаралі бізунамі. Астатнія скарыліся. Пазней пакаралі бізунамі 4 чалавек з тых, хто ўдзельнічаў у папярэдніх хваляваннях. Парадак быў наведзены — вайскоўцы адышлі на месца дыслакацыі. Але праблема засталася. У 1863 г. у данясеннях зноў фігуруюць сяляне Пеліканскага маёнтка. На гэты раз яны самавольна змянілі грашовыя выплаты на карысць двара. Замест 18 руб. 80 кап. з адной дзесяціны сталі плаціць 6 рублёў.*

*Чым закончылася гэтая справа — невядома.*



**Пеліканская капліца. Фотаздымак пач. 1990-х гг.**

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)